# СВАБОДА

№13 СЬНЕЖАНЬ 1991
ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990
РЭДАКТАР ІГАР ГЕРМЯНЧУК
ВЫДАВЕЦ ПАВАЛ ЖУК
АДРАС ДЛЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ: 220045, МЕНСК, П/С 17.
ФАКС (0172) 34-22-95
КОШТ 50 КАП.

## Акадэмія для прэм'ера

***Прэм'ер-міністар Вячаслаў Кебіч, адстаўкі якога дамагаецца парляманцкая Апазыцыя БНФ, здаецца, ужо й сам зразумеў, што ў хуткім часе яму давядзецца вызваліць крэсла.***

На выпадак адстаўкі ён таксама рыхтуе запасную «пасадачную пляцоўку». Як стала вядома СВАБОДЗЕ з урадавых колаў, В.Кебіч зьбіраецца абараняць дысэртацыю і пасьля падзеньня ўраду заняць пасаду рэктара Акадэміі кіраваньня, нядаўна ўтворанай пры Савеце Міністраў Рэспублікі.

У кулуарах Вярхоўнага Савету гаворка йдзе пра двух рэальных кандыдатаў на прэм'ер-міністра: **Міхаіла Мясьнiковіча** (цяперашні першы намесьнік прэм'ер-міністра) і **Уладзімера Кулакова** (старшыня Віцебскага аблвыканкама). Гэтыя кандыдаты, як заявіў адзін з дэпутатаў, могуць быць падтрыманыя Апазыцыяй БНФ і тады зьявіцца магчымасьць сфармаваць кааліцыйны ўрад народнага даверу. Ні на якую кааліцыю з Кебічам, як гэта было заяўлена раней, Апазыцыя ня пойдзе.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

**ЗАСЛУГІ** 20 лістапада Міністэрства сацыяльнага забесьпячэньня прызначыла пэрсанальную пэнсію Мікалаю Дземіньцею — 1750 рублёў (у месяц, зразумела).

**МІЛАСЭРНАСЬЦЬ** У Горадні спэцыяльна для былых партапаратчыкаў стварылі ў ваблвыканкаме новую структуру — «аддзел кантролю за выкананьнем рашэньняў аблвыканкаму». Аналягічныя аддзелы ствараюцца і ў іншых абласьцях.

**ПАХМЕЛЬЛЕ** Пад час інвэнтарызацыі маёмасьці ў будынку Менскага абкаму КПБ было знойдзена 24 каністры са сьпіртам.

**ВІЗЫТЫ** Вялікай нечаканасьцю для ўдзельнікаў «усесаюзнай» канфэрэнцыі па мэдыцыне, што адбывалася ў Горадні, стаў прыезд сюды маскоўскага прафэсара Лукьянавай — жонкі зьняволенага зараз былога старшыні Вярхоўнага Савету СССР.

**БІЗНЭС** Начальнік менскай турмы (СІЗО №1 па вул. Валадарскага) палкоўнік міліцыі Лукашэвіч зьняты з пасады за спробу незаконна правезьці праз польскую мяжу золата на 18 тысячаў рублёў.

**АКЦЫІ** 23—24 лістапада ў Менску маладзёжная арганізацыя «Выбранецкія шыхты» выставіла два пікеты (у пераходах на пляцы Я.Коласа і каля ГУМу) з нагоды 71-х угодкаў Слуцкае вайны — вядомага паўстаньня случчакоў супраць бальшавікоў.

**ІНФЛЯЦЫЯ** За апошнія два тыдні цэны на мяса на Камароўскім рынку ўзрасьлі амаль удвая. У нядзелю 24 лістапада прасілі да 50 рублёў за кілю сьвініны.

**СЬВЯТЫ** ЮНЕСКО абвесьціла 3-е траўня Міжнародным днём свабоды друку.

## У Маскве сказалі «Не»

***Дабрачынны амэрыканскі фонд «Сыты хоўп Інтэрнэшанал» паведаміў, што «паветраны мост» паміж ЗША і Рэспублікай Беларусь для перакідкі ў Менск прадуктаў харчаваньня ды мэдыкамэнтаў для дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскае навалы, бязьдзейнічае з прычыны прамаруджваньня й папяровых умоваў савецкага боку. Урад Беларусі арандаваў грузавы самалёт АН-124 "Руслан", але Аэрафлёт адмаўляецца выканаць рэйс, патрабуючы 80 тысячаў даляраў за паліва, перадпалётнае абслугоўваньне ды іншыя выдаткі.***

На складах аэрапорту ў Нюбурзе сабралася 150 тонаў грузу на суму два з паловаю мільёна даляраў. Грузы былі набытыя за кошт ахвяраваньняў розных амэрыканскіх арганізацыяў і прыватных асобаў.

Ідучы насустрач савецкаму баку і імкнучыся як мага хутчэй перакінуць у Менск грузы, фонд «Сыты хоўп» гарантаваў Аэрафлёту бясплатную запраўку палівам у нюбургскім аэрапорце Ст'юарт і пакрыцьцё выдаткаў на перадпалётнае абслугоўваньне й пагрузачныя апэрацыі. Тым ня менш «Руслан» у Амэрыку не прыбыў.

Працяг на стар.3

## Чыкін зноў паскандаліў

***Не шанцуе апошнім часам былому сакратару Менскага гаркаму КПБ, рэдактару адыёзнай бальшавіцкай газэты «Мы и время» Віктару Чыкіну. Нядаўна лідар «руху за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасьць» трапіў у міліцэйскі пастарунак.***

Сьведкам гэтай гісторыі быў народны дэпутат Беларусі Ігар Палагеча, сябра камісіі ВС па законнасьці, які штовечар пасьля паседжаньняў сэсіі разам з нарадам міліцыі Маскоўскага РАУС выпраўляецца па начным Менску — «з мэтаю глыбей вывучыць праблему барацьбы са злачыннасьцю».

«Грамадзяніна Чыкіна затрымалі непадалёк ад гатэля «Менск», — расказвае І.Палагеча. Ён быў так моцна п'яны,што ледзь трымаўся на нагах. Паводзіў сябе адпаведным чынам. У міліцэйскім пастарунку Чыкін размахваў пасьведчаньнем дэпутата Менскага гарсавету і пагражаў, што «ўсіх зволіць з працы»: і міліцыянтаў, якія яго затрымалі, і дзяжурнага па райаддзелу, і камандзіра ўзвода, і мяне ў тым ліку. Сэнс ягоных патрабаваньняў быў просты: калі вы адвязеце мяне дахаты, дык нікому нічога не будзе... Чым скончылася гэтая справа — ня ведаю. Чыкін працягваў лямантаваць, а мы паехалі патруляваць далей».

**П.П.**



Мал. С.ХАРЭЎСКАГА

## КРАМЛЁЎСКІЯ СПЭКТАКЛІ

Так маскоўская прэса ахрысьціла паседжаньні Дзяржаўнага Савету СССР. Тым ня менш Станіслаў Шушкевіч працягвае добрасумленна наведваць гэтыя крамлёўскія спэктаклі, дзе яму, здаецца, адведзена ўсяго толькі роля зацікаўленага гледача.

Пра гэта сьведчыць, у прыватнасьці, паседжаньне Дзяржсавету 4 лістапада, пра якое нядаўна падрабязна распавяла інфармаваная маскоўская «Независимая газета».

**«Барыс Ельцын спазьніўся на паседжаньне на чвэрць гадзіны. — піша газэта, — Аднак прабачэньня прасіў ня ён, а Гарбачоў — за тое, што разам зь лідарамі сямі рэспублік, паўтузінам прэм'ераў, дзесяткам міністраў і дарадцаў не дачакаўся Барыса Мікалаевіча, дазволіў сабе пачаць працу ў дакладна вызначаны час... З гэтага моманту Гарбачоў толькі старшыняваў. Дамінаваў — Ельцын. Ягоныя рэдкія рэплікі былі надзвычай агрэсіўнымі. Ельцын не пярэчыў — ён, як кажуць, «чапляўся». Да Яўлінскага, да Сілаева, да Гарбачова, да рэспубліканскіх прэзыдэнтаў і прэм'ераў. Гэта была непрыкрытая дэманстрацыя сілы, дэманстрацыя ўласнай незалежнасьці, непавязанасьці якімі б там ні было абавязкамі, бо прымусіць выконваць іх ніхто ня здолее».**

Члены Дзяржсавета вымушаныя былі пагадзіцца: **«кантроль над цэнамі аднаначасова з Расеяй здымуць усе рэспублікі. І цяпер ім давядзецца капіраваць у сябе ўсе больш-менш значныя акцыі ельцынскай рэформы».**

## Браў Горбі — плоціць Беларусь

Дэпутацкая Апазыцыя БНФ настойвае, каб урад Рэспублікі не пагаджаўся несьці адказнасьць за тыя крэдыты, якія браў Крэмль пасьля 25 жніўня г.г. — для абвешчаньня палітычнай і эканамічнай незалежнасьці Беларусі. Тым больш, што яшчэ год таму Апазыцыя накіравала ўладам вядучых заходніх краінаў зварот, падпісаны 75 дэпутатамі, у якім заклікала Захад не даваць крэдыты Гарбачову, а супрацоўнічаць з Рэспублікай.

Урад Кебіча, не зважаючы на патрабаваньні Апазыцыі, на сустрэчах з «сямёркаю» ў Маскве пагадзіўся ўдзельнічаць у пагашэньні ўсёй сумы запазычанасьці былога СССР, якая складае каля 70 млрд. даляраў. Як заявіў першы намесьнік Старшыні Саўміна РБ М.Мясьніковіч, на долю Беларусі па папярэдніх падліках 4.28% гэтай сумы.

**І.НАЦКАЯ**

## ПАКУТЫ СКОНЧЫЛІСЯ

***Па рашэньні Іўеўскага райвыканкаму напярэдадні 7 лістапада быў дэмантаваны помнік Леніну.***

Пад'ехаў трактар, пацягнулі тросам, звалілі Ільліча на прычэп ды выгрузілі на падворку камунгасу. З гэтае прычыны засталася нявыкананая пастанова раённага «Клюбу вэтэранаў», паводле якой яны ў гадавіну бальшавіцкага перавароту меліся ўскласьці кветкі да помніка правадыру.

Усё гэта выглядала на палітычную акцыю. Аднак у гутарцы з галоўным архітэктарам Іўеўскага раёну Уладзімерам Валасюком высьветлілася, што райвыканкам ухваліў пастанову аб дэмантажы помніка яшчэ год таму, «выходзячы выключна з эстэтычных меркаваньняў».

Спачатку хтосьці адбіў помніку нос — прыляпілі новы, які зь цягам часу чамусьці зрабіўся белы і на тле шэрага граніту надаваў Леніну выгляд індзейца. Потым і гэты нос зьнік: ці хто адбіў, ці сам адваліўся — невядома. Нарэшце нехта ўрэзаў Леніну па барадзе, ды так, што разам з барадою павярнулася на бок і сківіца. Пакідаць на «сьвяты» зьнявечанага Ільліча, каб вэтэраны ўскладалі кветкі да помніка калекі, не ўяўлялася мажлівым, таму й было прынятае рашэньне аб яго дэмантажы.

Праўда была думка яшчэ раз адрамантаваць шматпакутны помнік. Але раённая міліцыя заявіла, што ня ў стане забясьпечыць кругласутачную ахову Ільліча. А без аховы няма ніякае гарантыі, што яго зноў не паб'юць.

**Ігар КАРПІКАЎ**

## ТАКІЯ ВОСЬ «НОВОСТИ»

***У Горадні 15 кастрычніка пачала выходзіць яшчэ адна газэта. Яна мае на шыльдзе старажытны гарадзенскі гэрб — аленя сьвятога Губэрта, а называецца «Гродненские новости».***

Такім чынам, зь дзесяці газэтаў, што выдаюцца тут, адная толькі ўнівэрсітэцкая шматтыражка друкуецца па-беларуску, а тыраж яе ў вагульным складзе менш двох працэнтаў.

**У 1919 годзе ў Горадні выходзіла пяць беларускіх газэтаў. Вынікі ленінскай нацыянальнай палітыкі відавочныя.**

**А.КРАЎЗЭ**



Менск, 199?

# ТАЛЕРАНТНЫЯ ЛЮДЗІ ВЫБІРАЮЦЬ ТАЛЕР

***Цэлы год Кебіч дурыў усім нам галаву, што ў яго «ёсьць канкрэтныя прапановы па ўвядзеньні рэспубліканскіх грошай». Але зараз, калі пытаньне стала рубам, калі нават ужо Ўкраіна пачала друкаваць у Канадзе сваю грыўню, высьвятляецца, што наш кароль — голы.***

«Урад не зрабіў ніякіх сур'ёзных захадаў, каб падрыхтавацца да ўвядзеньня беларускага талеру, — заявіў карэспандэнту СВАБОДЫ дэпутат ВС ад Апазыцыі БНФ эканаміст Юры Беленькі. — Калі б увосень мінулага года Вярхоўны Савет прыняў распрацаваную Апазыцыяй і яе экспэртамі канцэпцыю пераходу да рынкавых адносін, якая прадугледжвала ў тым ліку і ўвядзеньне ўласнай грашовай сыстэмы, дык Рэспубліка за гэты час пасьпела б многае зрабіць. Але намэнклятурная большасьць Вярхоўнага Савета даверылася Кебічу і амаль паўтары гады аказаліся незваротна страчанымі».

Цяпер ужо ясна, што першую эмісію талера давядзецца друкаваць за мяжой. Дзеля гэтага спатрэбіцца самае малое 5—9 месяцаў з моманту падпісаньня кантракту і каля 20 млн. даляраў.

У прэсе, праўда, мільгнула інфармацыя, нібыта Беларусь ужо прапанавала дзьвюм заходнім фірмам — швэдзкай і ангельскай — на конкурснай аснове ўзяцца за друкаваньне беларускіх грошай. Аднак старшыня Дзяржзнаку Рэспублікі Сяргей Слабчанка абвергі гэтыя зьвесткі. У Швэцыю сапраўды, езьдзіў старшыня бюджэтна-фінансавай камісіі ВС Раман Унучка. Толькі гэта фактычна была турыстычная паездка за дзяржаўны кошт і ня мела ніякай карысьці.

З ангельскай фірмай, па словах С.Слабчанкі, вядуцца перамовы пра пастаўку ў Беларусь абсталяваньня для паліграфічнай фабрыкі па выпуску каштоўных папераў. Але пакуль ёсьць толькі кавалак зямлі пад Менскам, непадалёк ад мікрараёна Зялёны Луг-7, дзе мяркуецца пабудаваць фабрыку. «Калі чыноўнікі Савета Міністраў будуць працаваць так, як яны працуюць сёньня, дык уласная паліграфічная база, дзе, акрамя грошай, мяркуецца друкаваць пашпарты, маркі, іншыя каштоўныя паперы, зьявіцца ў нас няхутка, гадоў праз 5—6, — гаворыць С.Слабчанка. — Хаця ёсьць рэальная магчымасьць пабудаваць фабрыку за год. Трэба толькі прыбраць бюракратычныя кардоны ў Савеце Міністраў».

І тым ня менш дэпутат-апазыцыянэр Алег Трусаў настроены даволі аптымістычна: «У патрэбны момант Беларусь таксама ўвядзе ўласную валюту, нягледзячы на тое, што ўрад Кебіча нічога не зрабіў. Зробяць іншыя людзі. У нас ёсьць выйсьце».

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

Магчымая дынаміка курсаў нацыянальных валют пасьля пераходу на СКВ і сусьветныя цэны ў разьліках паміж рэспублікамі былога СССР

*(паводле маскоўскай газэты «Коммерсантъ», №39)*




# Жалезны аргумант




**Гэты люк быў укладзены ў брук у 1931 годзе. і ляжыць там ужо 60 гадоў. У Менску побач з помнікам Леніну каля Дону Ўраду. Наша гісторыя заўсёды з намі. Трэба толькі ўважліва глядзець пад ногі.**

**А. ДЗЯРНОВІЧ.**

# Толькі змаганьне!

***Самыя нястомныя людзі ў Горадні — гэта вэтэраны. Корпацца ў гародзе або выхоўваць унукаў — справы для іх абсалютна нікчэмныя. Ім падавай змаганьне, каб усё было паводле марксызму.***

Спачатку змагаліся з «Паходняй», з гісторыкам праф.Ткачовым, з БНФ. Зусім нядаўна зацята ваявалі супраць пераймяненьня Ленінграда, нібы ў Горадні сваіх праблемаў ня йсnue. Цяпер жа гарадзенскія вэтэраны шлюць зварот Гарбачову з патрабаваньнем «прыняць неадкладныя захады да спыненьня фактаў вандалізму й блюзьнерства над памяцью і прахам (?!) Леніна». Ня ведаем, як прэзыдэнт, але велізарны Уладзімер Ільліч, які стаіць у Горадні на пляцы, застаўся, безумоўна, у непаразуменьні, бо яго тут па-ранейшаму шануюць. Гэта вам ня Санкт-Пэтэрбург і не Масква.

**А.КРАЎЗЭ**

ЗДАРЭНЬНІ

# «Царскае паляваньне»

***Забойствам чалавека скончылася «царскае паляваньне», наладжанае віцебскай намэнклятурай 8 лістапада ў Мёрскім раёне.***

Стрэлам у жывот быў забіты Валеры Дзятлаў — былы першы сакратар Ушацкага райкаму КПБ, які нядаўна пераехаў працаваць у Менск на пасаду галоўнага вэтінспэктара Беларусі. Двое дзяцей засталіся без бацькі.

Страляў ~~намесьнік старшыні~~ Віцебскага аблвыканкаму Сяргей Галдыцкі. Цэліў у лася. За «ненаўмыснае забойства» закон прадугледжвае да сямі гадоў пазбаўленьня волі. Але, як сьведчыць практыка, ў такіх выпадках начальства волі не пазбаўляюць, а ўсяго толькі пераводзяць на іншую пасаду.

**В.Л.**

# ЦІ БУДЗЕ АДЛУЧАНА ВІЛЬНЯ?

***Так склалася, што Вільня, якая стала пасьля вайны сталіцай Летувы, — насамрэч усё яшчэ заставалася цэнтрам эканамічнага ды культурнага прыцягненьня паўночназаходняга рэгіёну Беларусі. Ішлі патокі міграцыі беларусаў, найперш моладзі, на прадпрыемствы Вільні. А віленскія заводы, намагаючыся максымальна наблізіцца да працоўнай сілы, адчынялі ў Астравецкім, Ашмянскім ды некаторых іншых раёнах Беларусі свае філіі.***

***Усё расплылося і перамяшалася: і прадпрыемствы, і людзі. Цяпер прыйшоў час разабрацца: дзе сваё, дзе чужое.***

У Астравецкім раёне, да прыкладу, ужо 20 гадоў працуе філія віленскага заводу, дзе занята каля 500 чалавек. Увесь гэты час філія, не фармуючы ўласнага бюджэту, фактычна ніяк ня ўдзельнічала ў развіцьці сацыяльнай сфэры раёну, у першую чаргу, для сваіх жа супрацоўнікаў, а гэта, між іншым, кіраўніцтва ў Вільні цалкам задавальняла. Беларускія работнікі ў Астраўцы працавалі ў такіх умовах, якімі іхнія калегі-рабочыя ў Вільні наўрад ці задаволіліся б. Але агульная праблема паўночна-заходніх раёнаў Беларусі — беспрацоўе — штурхала людзей на завод. Бо, акрамя калгасу, зь яго нымі вартымі жалю грашамі і бруднай працай, ніякай альтэрнатывы не было і дагэтуль няма.

Калі ж пачаўся распад савецкай імпэрыі, калі праясьнілася пазыцыя рэспублік Прыбалтыкі да СССР, дык ад разрыву былых эканамічных сувязяў, ад той жа кампаніі непадпарадкаваньня саюзных прадпрыемстваў ураду Летувы найбольш цярпелі абсалютна бяспраўныя філіі. Завод-філія ў Астраўцы вымушаны быў распачаць хадайніцтва аб пераводзе яго пад юрысдыкцыю Беларусі, спадзяючыся на большую стабільнасьць. Сёлета, 29 жніўня, у Астравецкім райвыканкаме быў зарэгістраваны статут заводу, што фактычна пацьвярджае самастойнасьць былое філіі.

Як быць зь летувіскім бокам — ніхто не ведае. Вось і вынікае неабходнасьць унармаваньня, каб праблема была вырашана з самага пачатку. Тым болей, што падзея мае характар унівэрсальны. Пры гэтым варта зазначыць, што правядзеньне дзяржаўнай мяжы зусім не абавязкова вядзе да разрыву гаспадарчых сувязяў. Колішняя філія, а цяпер самастойны завод у Астраўцы можа і ў будучыні супрацоўнічаць з прадпрыемствамі Летувы, але ўмоваю гэтага супрацоўніцтва мусіць быць рацыянальнасьць вытворчая і камэрцыйная.

Падобная сытуацыя склалася гэтаксама ў Ашмянскім раёне. У Ашмянах 900 чалавек (г.зн. палова ўсіх рабочых раёну) працуе на заводзе пластмасавага ліцьця, які зьяўляецца філіяй віленскага заводу радыёвымяральных прыбораў.

Апрача пытаньняў маёмасных, для сумежных зь Летувой раёнаў Беларусі характэрна тое, што вялікая колькасьць нашага насельніцтва працуе ў суседняй рэспубліцы. Так, шмат жыхароў Ашмянскага раёну робіць у Вільні на заводзе «Эльфа», які належыць да абароннай прамысловасьці, і на заводзе паліўнай апаратуры. Жыхары Астравецкага раёну працуюць у Вільні на будоўлях, на розных прадпрыемствах. Пераважная большасьць з іх — людзі рабочых спэцыяльнасьцяў, з вышэйшай адукацыяй практычна няма. Нягледзячы на блізкасьць раёнаў да Летувы, вучыцца моладзь едзе ўсё ж у навучальныя ўстановы Беларусі. Склалася нават і пэўная транспартная інфраструктура — для дастаўкі рабочых у Вільню па беларускіх раёнах езьдзяць спэцыяльныя ведамасныя аўтобусы зь Летувы.

Калі падлічыць «працоўную завязку» жыхароў Ашмяншчыны на Летуву, дык лік пойдзе на тысячы людзей. Усяго ж зь Летувой мяжуе 2 раёны Віцебскай вобласьці ды 6 раёнаў Гарадзенскай. Гэтыя ж 8 раёнаў і вызначаюць маштаб справы беларуска-летувіскага ўрэгуляваньня адносін. Відавочна, што разрыў сувязяў быў бы некарысьны ані для Беларусі (з-за праблемы занятасьці насельніцтва), ані для Летувы. Беларусь жа мусіць сфармуляваць і для сябе праблему — яе працоўны патэнцыял служыць суседу... Таму неабходна ўзяць пад кантроль гэты працэс сёньня, каб з часам зрабіць адпаведныя захады, спалучаючы інтарэсы дзяржавы і мясцовага насельніцтва.

Патрабуе вывучэньня і ўрэгуляваньня яшчэ адна памежная зьява — міграцыя насельніцтва. Варта адразу падкрэсьліць, што памер яе невялікі. Вядома, што апошнія палітычныя падзеі ў Летуве кагосьці засмуцілі ды падштурхнулі да выезду. Цяпер выязджаюць тыя, хто больш ня мае ілюзій на вяртаньне «савецкага ладу» і нязьдольныя прыстасавацца. Едуць часта ў суседнюю Беларусь. Частка гэтых людзей — ураджэнцы Беларусі, для іх выезд, па сутнасьці, вяртаньне дадому. Другая частка — расейцы з паходжаньня. Іх гэтаксама няшмат. Напрыклад, на працягу 1991 году ў Гудагайскі сельсавет перабраліся 3 расейскія сям'і — дзьве адстаўных афіцэраў і адна савецкага работніка. Пераважна людзі немаладыя. Між іншым, маладыя не вяртаюцца — чамусьці толькі старыя маюць засьцярогі да летувіскай незалежнасьці.

Не абыходзіцца без фэноменаў. Напрыклад, жыхары Віленскага краю — так званыя палякі — апошнім часам актыўна, нягледзячы на пэрспэктыву дзяржаўнае мяжы, купляюць на Беларусі дамы, асабліва хутарскія. Прычым, пераязджаць сюды яны не зьбіраюцца... І пакуль ніхто на беларускім баку мяжы ня можа ўцяміць, дзе тут карысьць. Гэтыя куплі паводле сёньняшніх законаў Беларусі не лічацца сапраўднымі. Разумеючы незаконнасьць зьдзелак, пракуратуры толькі квола скардзяцца на парушэньне заканадаўства ды разводзяць рукамі. А дамы купляюцца незаконна далей...

Увогуле ж паабапал мяжы абстаноўка спакойная. Не парушылі спакою нават нядаўнія стрэлы і забойствы летувіскіх мытнікаў у суседніх з Ашмянскім раёнам Медніках. Збольшага захоўваюцца прамысловыя сувязі, яшчэ лепш — гандлёвыя сувязі насельніцтва. Вось толькі зусім перарваліся былыя абмены калектывамі мастацкай самадзейнасьці — відаць, расейскія хары з какошнікамі ўжо не задавальняюць суседзяў, ды й мэнтальнасьць усё больш розьніцца... Карацей, сумежжа жыве. Хтосьці актыўна карыстаецца сёньняшняй няяснасьцю, неўрэгуляванасьцю, іншы нэрвова чакае навядзеньня парадку, ды спадзяецца, што не пазбавіцца мейсца працы на віленскім заводзе ці будоўлі, альбо проста магчымасьці зьезьдзіць у суседнюю Віленшчыну. Стагодзьдзі тут не было дзяржаўнай мяжы, але, відаць, цяпер усё ж такі будзе, хаця дзяржаўныя межы таксама бываюць розныя. Урэгуляваньне паміж дзьвюма дзяржавамі і павінна вырашыць, ці будзе Вільня адлучана ад Беларусі.

**Ю.Ч.**

# На мяжы, бывае, страляюць

***На беларуска-летувіскай мяжы на поўнач ад Горадні адбыўся інцыдэнт са сьмяротным зыходам.***

Аўтамабіль, які не спыніўся на беларускім КП, пасьля папераджальных стрэлаў у паветра, быў абстраляны спачатку па колах, а потым — у пагоні — па кабіне. Уцякалі вайскоўцы СА — салдат зь лейтэнантам. Абодва былі паранены. Шараговец памёр па дарозе да шпіталю.

**А.КРАЎЗЭ**

# За прэзыдэнтам сочаць

***Менскія актывісты Беларускага Экалягічнага Саюзу абвінавачваюць прэзыдэнта сваёй арганізацыі народнага дэпутата Беларусі, старшыню камісіі ВС па экалёгіі Барыса Савіцкага ў «антыдэмакратычнай і антыбеларускай дзейнасьці».***

У заяве, якую накіравалі Ўправе БЭС кіраўнікі трох менскіх суполак А.Сабаленка, І.Гуляева, А.Забароўская, адзначана, што Б.Савіцкі «сьвядома ігнаруе гістарычныя інтарэсы беларускага народу, выступае супраць незалежнасьці Рэспублікі, дэмакратычных законапраектаў, якія прапануе ў ВС Апазыцыя...» Аўтары заявы прыйшлі да такой высновы, прааналізаваўшы стэнаграмы паседжаньняў сэсіі і сьпісы паіменных галасаваньняў.

«Вянцом рэакцыйнай дзейнасьці Б.Савіцкага, — падкрэсьлена ў заяве, — было тое, што ён паставіў свой подпіс пад сумна вядомым жнівеньскім зваротам Прэзыдыюма ВС да беларускага народу», у якім, па сутнасьці, была выказана падтрымка хунцье». У дадатак да ўсяго Барыс Пархвёнавіч «не выконвае належным чынам абавязкаў прэзыдэнта БЭС, ён аказаўся нездольным арганізаваць у Рэспубліцы экалягічны рух, які мог бы вырашаць практычныя задачы. Зараз БЭС існуе ў асноўным толькі як карыта для Б.Савіцкага».

Сябры гэтых трох суполак прыпынілі сваё членства ў БЭСе і патрабуюць ад Управы склікаць нечарговы зьезд арганізацыі, каб выказаць недавер Савіцкаму. Управа ж БЭСу пакуль адказвае маўчаньнем. А Барыс Пархвёнавіч тым часам рыхтуецца ў чарговую паездку за мяжу.

**Уладзімер ЦЯРОХІН**

## У Маскве сказалі "Не"

Пачатак на 1-й стар.

Тэрмін арэнды складскіх памяшканьняў у аэрапорце Ст'юарт хутка скончаецца, прычым частка грузаў, якія тут захоўваюцца, могуць сапсавацца. Арганізатары фонду «Сыты хоўп» зьвярнуліся да Дзярждэпартаманту і асабіста да прэзыдэнта Буша з прозьбаю дазволіць выкарыстаньне вайскова-транспартовых самалётаў С-5, гатовых вылецець у Менск у любую хвіліну па распараджэньні Вашынгтона і пры згодзе савецкага боку.

Паводле зьвестак дабрачыннага фонду, над 800 тыс. беларускіх дзяцей зьвісла небясьпека ракавых захворваньняў, выкліканых чарнобыльскай радыяцыяй, а 37 тыс. дзяцей хворыя на лейкемію. На Захадзе пры лячэньні дзяцей адпаведнымі прэпаратамі выжывае да 85% хворых, а ў Савецкім Саюзе — толькі 15%.

Сярод грузаў дабрачыннага фонду дзіцячае харчаваньне, прадукты, лекі для лячэньня хваробаў крыві й анкалягічных захворваньняў, мэдыкамэнты, сучасная рэнтгенаўская апаратура й хэмічныя прэпараты для правядзеньня звышпрэцызійных аналізаў. На борце самалёта, які меўся накіравацца ў Менск, планавалі вылецець амэрыканскія лекар-анколяг і тэхнік-рэнтгенолягі.

«Новое Русское Слово» (ЗША)

## Кардонаў ня будзе

***Летува, Латвія і Эстонія заключылі паміж сабою мытны саюз і зьбіраюцца ўтварыць адзіную эканамічную прастору.***

Ужо сёлета будзе распрацавана вунія, згодна якой мытная мяжа пройдзе толькі па заходніх і ўсходніх рубяжох гэтых краінаў, але не паміж імі. У сувязі з гэтым прадугледжваецца ўзгадніць падаткавыя законы, а таксама цэнавую палітыку. Будзе ўсталяваны бязьвізавы рэжым паездак, свабодны рух тавараў і капіталу.

На апошнім паседжаньні Балтыйскага Савету ўзгоднена таксама адказнасьць за прыярытэтныя накірункі дзейнасьці. У прыватнасьці, за разьвіцьцё тэлекамунікацыяў і рэалізацыю праграмы забесьпячэньня гэтых трох краінаў цукрам будзе адказваць Латвія. Разам зь Летувою яна павінна паклапаціцца і пра нафтапрадукты. Эстонія ўзялася несьці адказнасьць за пракладку аўтамабільнай трасы міжнароднага значэньня ад Таліна да летувіскай мяжы, за вытворчасьць аўтобусаў і за выпрацоўку канцэпцы па разьвіцьцю энэргетыкі. Летува будзе разьвіваць машынабудаваньне.

Пад гэтыя і іншыя праекты Балтыйскія дзяржавы спадзяюцца атрымаць крэдыты заходніх банкаў.

**Эдвард ШЫНКЕВІЧ**

## «Інтэры» могуць не турбавацца

***Камісія Эўрапейскага Савету не знайшла парушэньня правоў чалавека ў Латвіі.***

Аб гэтым заявіў на прэс-канфэрэнцыі ў Рызе кіраўнік дэлегацыі Камісіі па заканадаўству ЕС Эрык Харэмаўс. Дэлегацыя, што складаецца з экспэртаў па пытаньнях правоў чалавека, прабыла некалькі дзён у Латвіі і азнаёмілася з законатворчасьцю ВС Латвійскай Рэспублікі.

Мы прыехалі не як судзьдзі, а як дарадцы, падкрэсьліў кіраўнік дэлегацыі. Ён знайшоў справядлівым патрабаваньне аб веданьні латыскай мовы і лаяльнасьці да латвійскай дзяржаве як падставы для атрыманьня грамадзянства.

**(РІА)**

# Мы зробім памылку,

### калі ня выкарыстаем магчымасьці беларускай эміграцыі ў інтарэсах Беларусі

***Так лічыць народны дэпутат Беларусі Ўладзімер НОВІК, член Сойму БНФ, які на працягу двух тыдняў знаходзіўся ў ЗША на запрашэньні Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) і ўдзельнічаў у 24-тым Кангрэсе гэтае арганізацыі.***



Разам з Анатолем Гурыновічам, першым намесьнікам старшыні Менскага гарсавету, сябрам Сойму БНФ, мы пабывалі ў штатах Нью-Ёрк, Нью-Джэрзі і Агаё, дзе жыве шмат этнічных беларусаў. Амэрыканскія беларусаў вельмі цікавілі апошнія падзеі на Бацькаўшчыне, асабліва абвешчаньне незалежнасьці Беларусі. Нашы суайчыньнікі адзначалі, што нарэшце спраўджваецца іхняя спрадвечная мара пра вольную і незалежную Беларусь.

Хачу падзяліцца некаторымі ўражаньнямі, якія і я выказаў перад удзельнікамі 24-га кангрэсу БАЗА і, думаю, будуць цікавымі для жыхароў Беларусі.

Па-першае. Нават павярхоўны аналіз беларускай эміграцыі ў ЗША паказвае, што ў сваёй большасьці яна ўяўляе сабой генэтычна здаровую, працавітую, нацыянальна сьведамую частку беларускага этнасу, якая здолела ў найскладанейшых умовах чужыны без усялякай падтрымкі звонку выжыць у Амэрыцы і нават заняць прыстойнае мейсца ў амэрыканскім грамадзтве. Пры гэтым захаваньне беларускай нацыянальнай культуры, самабытнасьці і асабліва мовы ў штодзённым амэрыканскім асяродзьдзі гаворыць аб высокай здольнасьці беларусаў да выжываньня і самазахаваньня, сьведчыць пра высокую нацыянальную культуру і сьвядомасьць беларускага народа. У той жа час можна сьцьвярджаць, што беларускі мэнталітэт дазваляе беларусам лёгка ўжывацца ў новае для іх асяродзьдзе і станавіцца раўнапраўнымі сугрмадзянамі краіны, якая прыняла іх. Гэта таксама сьведчыць аб высокіх якасных характарыстыках беларускага этнасу, якія ў межах былой Расейскай імпэрыі бязьлітасна эксплёатаваліся дыктатарскімі рэжымамі. Я тут маю на ўвазе шчырасьць, дабрыню, рахманасьць, працавітасьць, самааддданасьць беларусаў у працы і штодзённым жыцьці.

Розныя шляхі прывялі нашых суродзічаў у Амэрыку — голад, несправядлівасьць, жаданьне падзарабіць, іншаземны прыгнёт, пагроза сталінскіх рэпрэсій і г.д. Сёньня Беларусь ужо незалежная дзяржава. Настаў час фундаментальнага дасьледваньня прычын эміграцыі зь Беларусі дзеля стварэньня на Бацькаўшчыне максымальна спрыяльных умоваў для вольнага разьвіцьця беларускага этнасу на сваёй гістарычнай тэрыторыі. Карацей кажучы, мы стаім перад праблемай стварэньня такой сыстэмы дзяржаўнага ладу ў Беларусі, якая б давала магчымасьць усім грамадзянам Рэспублікі праявіць усе свае здольнасьці на сваёй бацькаўшчыне, а не вымушала таленавітых і неардынарных асобаў шукаць вартага прымяненьня сваім сілам і сваёй энэргіі на чужыне. І ў гэтую справу сёньня могуць унесьці вялікі ўклад такія ведамыя беларускія эмігранты, як Янка Запруднік, Вітаўт і Зора Кіпелі, Вера і Франсыс Бартулі, Васіль і Галіна Русакі, Антон Шукелайць ды іншыя. Іх багаты жыцьцёвы і прафэсійны вопыт, разнастайныя веды вельмі нам неабходныя пры распрацоўцы прававой базы новай дэмакратычнай дзяржавы Беларусь.

Нашы суайчыньнікі ўжо моцна ўжыліся ў амэрыканскую інфраструктуру і таму могуць вельмі кваліфікавана паказаць нам усе перавагі й хібы амэрыканскай сыстэмы. Тут я маю на ўвазе сацыяльна-палітычную і эканамічную сыстэму гэтай вельмі цікавай і багатай краіны.

Як ведама, амэрыканцы лічаць сваю краіну ўзорам дэмакратыі і сацыяльнай справядлівасьці. У галіне эканомікі тут усё будуецца выключна на аснове рацыяналізму і прагматызму. У масавай грамадзкай псыхалёгіі адсутнічаюць ідэалягічныя догмы і стэрэатыпы, што спрыяе развіцьцю здаровай канкурэнцыі ва ўсіх сфэрах чалавечай дзейнасьці. Таму дыяспара магла б адыграць вялікую ролю ў стварэньні ў масавай псыхалёгіі насельніцтва Беларусі новага вобразу станоўчага героя — прадпрымальнага, энэргічнага дзелавога чалавека, які мае вялікі посьпех. Сёньня, нажаль, у Беларусі ўсё наадварот. Станоўчы герой — гэта бедны чалавек, які змагаецца супраць прадпрымальніцтва і людзей, што маюць посьпех. Гэта ня што іншае, як зайздрасьць. Тая зайздрасьць, на якой будавалася бальшавіцкая ідэалёгія. Хопіць змагацца з багацьцем, трэба змагацца зь беднасьцю.

Па-другое. Беларускія амэрыканцы маюць добрыя кантакты зь дзелавымі коламі і ўрадавымі дзеячамі ЗША. Тут ёсьць магчымасьць выкарыстаць іх сувязі і кантакты для наладжваньня супрацоўніцтва паміж беларускімі і амэрыканскімі дзяржаўнымі ўстановамі, фірмамі, арганізацыямі і банкамі. Нашы суайчыньнікі могуць арганізаваць даведчую службу для беларускіх прадпрымальнікаў, якія выходзяць на амэрыканскіх партнэраў.

Па-трэйцяе. Пасярэдніцкія паслугі пры навязаньні прамых кантактаў паміж беларускімі і амэрыканскімі коламі. Нашы суайчыньнікі ў Амэрыцы могуць аказаць дапамогу ў арганізацыі навучаньня, стажыроўкі беларускіх спэцыялістаў у розных галінах інфраструктуры рынкавай эканомікі ЗША. Больш таго, многія з нашых суайчыньнікаў прайшлі сур'ёзныя школы бізнэса, маюць свае фірмы і таму могуць прыехаць на Беларусь для арганізацыі рынкавай інфраструктуры і падрыхтоўкі спэцыялістаў, што значна танней, чым накіроўваць нашых спэцыялістаў на вучобу ў ЗША.

Якія ж высновы можна зрабіць пасьля знаёмства з беларусамі ў Амэрыцы? Нашай Рэспубліцы неабходна стварыць інфармацыйнае агенцтва ў ЗША. Гэта патрэбна для стварэньня станоўчага іміджу Беларусі ў сьвеце і, у першую чаргу, у ЗША. Вярхоўны Савет Беларусі ўжо прыняў пастанову аб зьнешнепалітычнай дзейнасьці, дзе даў адпаведныя даручэньні Савету Міністраў. У гэтай справе беларуская эміграцыя можа адыграць выключна важную ролю хаця б таму, што ведае ангельскую мову і спэцыфіку прадстаўленьня інфармацыі для амэрыканскага карыстальніка. Дзеля рэалізацыі гэтага праекту трэба стварыць адпаведнае сумеснае агенцтва і тэрмінова распачаць працу. Амэрыканскі бок ужо гатовы да гэтага і запрашае да супрацоўніцтва.

Неабходна тэрмінова распачаць выданьне штомесячных часопісаў у Беларусі для Амэрыкі на ангельскай мове, а таксама выданьне ў Амэрыцы часопіса пра Беларусь на ангельскай мове. Эміграцыя ўжо распачала такую дзейнасьць. Напрыклад, у Каліфорніі Язэп Арцюх выдае часопіс на ангельскай мове «BYELORUSSIAN REVIEW», дзе зьмяшчаецца інфармацыя і аналіз сацыяльна-палітычнай і эканамічнай сытуацыі ў Беларусі. Часопіс рассылаецца па амэрыканскіх зьнешнепалітычных ведамствах і ўрадавым дзеячам. Настаў час зрабіць эміграцыйныя выданьні даступнымі таксама на Беларусі, напрыклад, прадаваць у газэтных кіёсках.

Янка Запруднік працуе зараз над кнігай пра Беларусь, якую заказаў яму Калумбійскі ўнівэрсытэт (Нью-Ёрк) і амэрыканскае выдавецтва Westview Press. Трэба мець на ўвазе, што гэтым выданьнем будуць карыстацца ў Амэрыцы і па-за ёй уплывовыя людзі, і ў нашым супольным інтарэсе ляжыць забесьпячэньне аўтара ўсебаковай інфармацыяй, грунтоўнымі зьвесткамі і фотаматар'яламі для прывабнага афармленьня гэтай грунтоўнай працы.

Эміграцыя можа і павінна стаць дзейснай дапамогай Бацькаўшчыне ў справе станаўленьня незалежнасьці і дзяржаўнасьці Беларусі. Спадзяюся, што настане час, калі і Бацькаўшчына зможа падзякаваць сваёй дыяспары за яе намаганьні ў справе адраджэньня Беларусі. Посьпех першых дзелавых кантактаў беларускіх і амэрыканскіх партнэраў з дапамогай беларускай дыяспары выкліча спонсарства як з амэрыканскага, так і зь беларускага бакоў, якія будуць зацікаўленыя ва ўстанаўленьні новых дзелавых кантактаў, што прывядзе да ўстанаўленьня нармальных адносінаў паміж Рэспублікай Беларусь і ЗША.

## Надта хочацца ў НАТО

### Нашага карэспандэнта віталі салдаты бундэсвэра

У гарнізоне імя генэрал-фэльдмаршала Ромеля ўпершыню прымалі журналіста з былога СССР. Ніхто не запатрабаваў ніякіх дакумантаў. Сустрэў мяне гаўптман Брыкман, які ў жніўні гэтага года сутыкаўся з беларусамі — «дзецьмі Чарнобыля» з Мазыра. Гэта было якраз пасьля таго, як гаўптман вярнуўся з вайны ў Пэрсідзкай затоцы.

— Пра катастрофу на Чарнобыльскай АЭС мы шмат чулі, пра гэта пісалі газэты, — гаворыць спадар Брыкман. — І калі ў нашу мясцовасьць прыехалі дзеці, якія пацярпелі ад Чарнобыля, яны сустрэлі шмат праблемаў. Адны згубілі свой багаж, у іншых не было кішэнных грошай... Тады мы вырашылі, што будзе добра, калі мы зможам дапамагчы, чым можам. Я спытаў сваіх салдатаў, якія ня так шмат атрымліваюць грошай, ці не жадаюць яны дапамагчы. Было прыемна, што ў салдатаў гэтая акцыя выклікала добрыя пачуцьці. Тыя грошы, якія звычайна ідуць на агульныя вечары, дзе можна выпіць і закусіць, салдаты аддалі дзецям. Мы сабралі гэтыя грошы для дзяцей і мае салдаты адыгралі тут вырашальную ролю. Яны з шапкай абыйшлі іншых вайскоўцаў і сабралі дадатковыя сродкі. Нам вельмі хацелася дапамагчы, прынесьці радасьць дзецям. Было прыемна, што мы таксама прыклалі свае намаганьні, каб хлопчыкі і дзяўчынкі тут добра правялі час, адпачылі, каб у іх тут усё атрымалася.

Каля варотаў казармы — дзьве бажніцы, якія таксама належаць бундэсвэру. Гэта яшчэ адна прыкмета дэмакратычнай дзяржавы. «Кожны вялікі гарнізон мае па меншай меры адну эвангелічную кірху і адзін каталіцкі касьцёл, — тлумачыць гаўптман Брыкман. — Ёсьць свае пастары, якія атрымалі цывільную адукацыю. Рэгулярна адзін раз на месяц яны правядзяць службу і маральна дапамагаюць салдатам у іх штодзённых клопатах. Гэта не рэлігійныя тэмы, хоць часам яны могуць датычыцца і царквы. Сьвятары гутараць з салдатамі і перад тым, як тыя даюць урачыстае абяцаньне служыць нямецкаму народу, абараняць яго. Вельмі важна ў час гэтых размоваў падумаць, што значыць служба ва ўзброеных сілах. І тут нашы сьвятары адыгрываюць вялікую ролю».

**Потым гаўптман Брыкман разам з салдатамі паказалі памяшканьне казармы. Адразу зазначу, што нідзе я тут ня ўбачыў якіх-небудзь заклікаў, якога-небудзь «сярпа і молата», чыіхсьці партрэтаў.**

**«У казармах нельга весьці палітычную прапаганду, — гаворыць гаўптман Брыкман. — Узброеныя сілы павінны быць свабодныя ад палітычнай ідэалёгіі. Ведома ж, нашы салдаты атрымліваюць інфармацыю пра тое, што адбываецца ў сьвеце, і мы імкнемся, каб гэтая інфармацыя была найбольш поўнай і аб'ектыўнай. Салдаты, якія належаць да якой-небудзь партыі, ня маюць права праводзіць тут ідэалягічную работу».**

У казарме некалькі пакояў, у якіх жывуць па 6-8 чалавек. На сьценах калідораў і ў пакоях — эратычныя календары і фотаздымкі з прыгожымі жанчынамі. У кожным пакоі тэлевізар, відэамагнітафон, які салдат мае права прынесьці сюды з дому. Ёсьць і адзін агульны для ўсіх тэлевізар. На кожным паверсе казармы душ і ўсюды тыповая для немцаў чысьціня.

Служба ў бундэсвэры працягваецца адзін год, а альтэрнатыўная цывільная — на тры месяцы больш. Вайскоўцы атрымліваюць 360 марак за месяц, столькі ж атрымліваюць і цывільныя. На працягу года салдат бундэсвэра мае адпачынак з 26-ці дзён. Заняты ён звычайна з панядзелка да пятніцы, а ў выходныя свабодны. Калі ў гэты час у салдатаў няма палявых заняткаў, то яны звычайна едуць дахаты. Набор юнакоў у бундэсвэр адбываецца так, што іх дом знаходзіцца ад казармы на адлегласьць 50-100 кілямэтраў. І многія знаходзяцца так блізка ад хаты, што вечарамі, калі служба заканчваецца, едуць дамоў. Такім чынам, на выходныя, у вольны час салдаты свабодныя. Але а палове на сёмую раніцы яны павінны быць у казарме.

Усё тое, што давялося ўбачыць за кароткатэрміновы візыт у бундэсвэр — гэта толькі першыя ўражаньні. І добра, што яны станоўчыя. Салдацкая служба тут набывае ўсё больш чалавечы характар. І, магчыма, прыйдзе той час, калі ўжо не спатрэбіцца і ўніформа. Давайце ж будзем спрыяць гэтаму працэсу.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## «Гаварыў Язэп Барэйка»

***По дамоўленасьці паміж радыёстанцыяй Свабодная Эўропа (РСЭ) і Эстонскім радыё, пачынаючы з 1 кастрычніка на хвалях Эстонскага радыё трансьлююцца і праграма Эстонскай службы РСЭ, адну гадзіну штодня.***

Гэта ўпершыню ў сфэры ўплыву былога СССР, калі праз мяйсцовыя каналы перадаюцца перадачы РСЭ. Такая практыка існуе ўжо на працягу некалькіх гадоў у Польшчы і Чэха-Славаччыне. У бліжэйшы час пачнуць трансьляваць «свае» праграмы РСЭ Летува й Латвія.

Як адзначыў дырэктар Эстонскай службы Т.Х.Ільвэс, у новай палітычнай сытуацыі РСЭ будзе зьвяртаць сваю ўвагу найперш на тыя тэмы, якія мала асьвятляюцца мяйсцовай прэсай: міжнародныя паведамленьні, рэакцыя іншых краінаў, перадача матар'ялаў аб практыцы заходніх дэмакратый.

Магчыма, з часам і на Беларусі мы будзем слухаць перадачы Беларускай службы радыё Свабода па звычайнай праваднай радыёсетцы. Аднак цяперашняе кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё даваць нам такую магчымасьць не зьбіраецца. Таму па-ранейшаму давядзецца шукаць гэтыя перадачы на кароткіх хвалях.

**Беларускія праграмы радыё Свабода выходзяць зараз у эфір ад 6 да 7 гадзіны раніцы на хвалях 25,31,41 і 49 мэтраў, ад 7 да 8 гадзіны раніцы на хвалі 49 мэтраў, ад 17 да 18 гадзіны і ад 20 да 21 гадзіны на хвалях 25,31,41 і 49 мэтраў.**

М.В.

СВАБОДА
№13 СЬНЕЖАНЬ 1991




Этнаграфічная карта складзена акадэмікам Я.Карскім згодна досьледаў 1903 года (суцэльная лінія).
Кропкамі пазначаныя этнічныя межы Беларусі паводле М.Доўнар-Запольскага (1919 год).
Заштрыхаваная лінія — сучасныя межы Рэспублікі Беларусь.
Арыгінал карты захоўваецца ў фондах Літаратурнага музэя Максіма Багдановіча.

# Сьвятыя айцы, спыніцеся!

## Катлаван у XII стагодзьдзе

***Не зважаючы на дзьве пісьмовыя забароны ўладаў, настаяцель старажытнай гарадзенскай Каложскай царквы а.Аляксандр самавольна захапіў пад будаўніцтва плябані зямлю побач царквы ў вабсягу археалягічнага запаведніка. Быў выкапаны катлаван і зьнішчаны культурны пласт. Гарадзкая інспэкцыя накіравала айцу прадпісаньне спыніць будаўніцтва, але той ніяк не рэагуе.***

На пачатку года архітэктар горада даў заданьне падрыхтаваць праэкт плябані з хрысьцільняй ды падземнай прыбіральняй для парафіянаў па-за межамі археалагічнага запаведніка, але паблізу царквы. Аднак айцу гэта прыйшлося не даспадобы. Дарэчы, у жніўні ў гарвыканкаме адбылася нарада, прысьвечаная рэстаўрацыі Каложы як помніка XII стагодзьдзя, дзе прысутнічаў прадстаўнік мітрапаліта Філарэта. Было вырашана наладзіць навуковую канфэрэнцыю, каб супольна вызначыць канцэпцыю рэстаўрацыі. Апроч гэтага былі забаронены будаўнічыя ды іншыя работы ў самой царкве й побач яе. Але сьвяты айцец што задумаў, тое і робіць.

Галоўны архітэктар Горані Лытаў мусіў зноў зьвярнуцца да мітрапаліта, каб той прыняў адміністрацыйныя захады да а.Аляксандра, які ігнаруе заканадаўства. Філарэт жа пакуль маўчыць.

### У Філарэта іншыя клопаты

***Расейская праваслаўная царква імкнецца завалодаць Гарадзенскім базыльянскім кляштарам, дзе зараз месьціцца рэспубліканскі Музэй гісторыі рэлігіі — адзін з найлепшых музэяў Беларусі.***

Пытаньне вырашалася ў Менску «на самым высокім узроўні», і РПЦ амаль што дамаглася свайго. Нацыянальны музэй разам з супрацоўнікамі й багатымі зборамі ледзь не апынуўся на вуліцы. Але пасьля праваллу жнівеньскага путчу, калі хаўрусьнікам праваслаўных герархаў — бальшавікам — далі па шапцы, справу ўдалося прыпыніць.

Як высьветлілася, на сваю долю ў кляшторнай маёмасьці, апроч РПЦ, могуць прэтэндаваць уніяцкая, каталіцкая і польская праваслаўная (валодала ім у міжваенны час) царква, а таксама Беларуская дзяржава. Ды яшчэ адшукаўся гістарычны дакумант, паводле якога фундатар кляштору збудаваў яго для ўніятаў «на вечныя часы».

У верасьні ў горадзе працавала рэспубліканская камісія, пакліканая для вырашэньня пытаньня з базыльянскім кляштарам. Было вырашана ў будучыні перадаць яго адной з канфэсій, але толькі пасьля таго, як музэй атрымае адпаведныя памяшканьні. Камісія палічыла таксама, што яго варта пераназваць у Музэй беларускай духоўнай культуры.

Але расейскую праваслаўную царкву беларуская культура не цікавіць. Яе, відаць, цікавіць толькі нашая маёмасьць. РПЦ разумее, што трэба сьпяшацца. Пакуль унія не ўзмацнела.

**Андрэй БАЛЬЦАРОВІЧ**

# Сойм Каталіцкай Грамады

***9 лістапада ў старажытным беларускім каталіцкім месьце Горадні адбыўся II-гі пазачарговы Сойм Беларускай Каталіцкай Грамады.***

Два аўтобусы найбольш заангажаваных прадстаўнікоў БКГ — менчукоў, разам з касьцельным хорам і арганістым проста з колаў патрапілі ў гарадзенскую Фару, дзе адбылася імша, якая фактычна распачала працу Сойму. А гарадзенская Фара — гэта вам ня менскі касьцёл на Залатой Горцы! Усё, што выглядала самавіта і падставова ў невялікім менскім касьцёле, трохі гублялася пад высознымі скляпеньнямі ці не найвялікшага касьцёла на Беларусі. Ладная купа беларусоў-гарадзенцаў, якія ці не ўпершыню прыйшлі на беларускую імшу, зачаравана і моўчкі назіралі за наспрактыкаванымі ўжо менчукамі.

Божа Пане! Колькі працы ў нас яшчэ наперадзе, каб аднавіць хоць бы падваліны беларускага каталіцкага руху ўва ўсіх ягоных аспэктах, які так бязьлітасна раздушылі камуністычны рэжым!

Абмеркаваньню гэтага найважнейшага пытаньня і быў прысьвечаны Сойм БКГ. Наперадзе — шырокая дзейнасьць па выданьні беларускае каталіцкае літаратуры, набыцьцё будынку для арганізацыі беларускага каталіцкага культурнага цэнтру.

Сойм вырашыў распачаць выданьне БКГ рэспубліканскай каталіцкай штотыднёвай газэты «Голас часу» і часопіса «Беларуская сьвятыня». Капэлянам БКГ арцыбіскуп К.Сьвёнтак прызначыў кс. М.Сапеля. Сойм перавыбраў на старшыню БКГ вядомага беларускага мастака Ф.Янушкевіча.

**А.Б.**

# ЯЎРЭІ ЦІ ЖЫДЫ?

«...У № 11 вашай газэты сустрэлі такі загаловак: «Слонімскія жыды на радзіме» і задумаліся: ці варта выпісваць СВАБОДУ ў наступным годзе? Скажыце: гэтае абразьлівае для яўрэяў слова было ўжыта выпадкова, ці, можа, вы антысэміты?»

*(З чытацкага ліста)*

Пачну нечакана. Ці задумваўся калі шаноўны чытач, чаму па-расейску слова *самостоятельный* гучыць годна й паважна, а словам *самостийный* расеец карыстаецца, калі хоча зь некага пакпіць і яго прынізіць? Чаму па-расейску *малевать* — з грубым значэньнем, хоць у беларускай і ўкраінскай *маляваць, малювати* — зусім дастойны занятак?

А рэч у тым, што словы *самостийный* і *малевать* — пазычаныя расейскаю мовай з украінскае й беларускае, слова ж *самостоятельный* — царкоўнаславянскае. Расейская мова пазычала з моваў заходніх суседзяў і тысячы іншых словаў, напр. *предместье, сбруя, алфавит, арифметика, оратор, студент.* Адбывалася гэтае пазычаньне ў XVI—XVII стст.: якраз тады расейская культура на прыкладзе культураў беларускай і ўкраінскай знаёмілася з эўрапейскімі каштоўнасьцямі ды традыцыямі.

Пазьней, з умацаваньнем Расейскае імпэрыі, нашыя ўсходнія суседзі забыліся, хто дзяліўся зь імі здабыткамі цывілізацыі, і, захапіўшы «Малую і Белую», пачалі грэбліва, як да нечага сапсаванага й сьмешнага, ставіцца да беларускай і ўкраінскай моваў. Новыя запазычаньні з гэтых моваў выкарыстоўваліся ў расейскай гаворцы для стварэньня камічных эфэктаў, пры неабходнасьці прынізіць паймо. «У говорящего должна быть установка на шутку», піша пра гэта расейскі мовазнаўца Л.Крысін.

Дакладна адчула на сабе падобны лёс беларускае слова *жыд*. У беларускай мове яно бытуе вельмі даўна, з тых часоў, як над Нёмнам і Дняпром зьявіліся першыя прадстаўнікі паўднёвага народу. Большасьць беларускіх жыдоў прыйшлі сюды з Заходняе Эўропы, дзе яны сталі размаўляць нямецкім дыялектам. Сабе яны звалі (і завуць) Jidn, а сваю мову — гэты дыялект —Jidisch. Бальшыня эўрапейскіх народаў, у тым ліку нашых суседзяў, называе гэты народ імем таго ж кораню, які паходзіць ад стараітальянскага *giudio* з лац. *iudaeus*, гэтае слова ў сваю чаргу ад грэцк. *judaios* «зь Юдавага калена». Імя ж Юда, Іуда (ст.-жыд. Jehûdah, грэцк. 'Ioudas) у старазапаветнай традыцыі меў чацьверты сын Якуба ад Ліі. Гэтае імя — эпонім племя юдзеяў (іудзеяў) і абазначае «хвала Богу». Другі назоў — *гэбрай, еврей* —замацаваўся ў грэцкай мове (Hebraios ад ст.-жыд. 'ibri), стаў асноўным у мовах усходняй, візантыйскай традыцыі. У заходніх жа мовах гэты корань набыў значэньне «старажытнажыдоўскі». Параўн.:

Ням. Jude; Hebräer (у стараж. Палестыне). Анг. Jew; Hebrew — іўрыт. Фр. Juif. Эст. juut. Žid — славацк., харвацк., чэшск. Па-чэшску židovský jazyk — ідыш; старажытная мова — hebrejština. Ды і па-расейску тэрмін *идиш* абазначае сучасныя эўрапейскія жыдоўскія дыялекты, а словам *иврит* называюць старажытную мову, адроджаную ў Ізраілі.

У старабеларускай літаратурнай мове значэньне каранёў *жыд-* і *гэбр-* магло адрозьнівацца гэтаксама, як у большасьці эўрапейскіх моваў: першы часьцей абазначаў сучасных прадстаўнікоў гэтага народу ды іхнюю мову, а другі — старажытных.

Народы ўзаемна завуць адно аднаго па-рознаму. Усе славяне адвеку называюць народ Deutsche — «немцамі», г.зн. «нямымі», тымі, хто не размаўляе зразумела. І немцы на нас за гэта ня крыўдзяцца і нотаў ня шлюць. Летувісы заўсёды звалі беларусаў gudai — гуды, потым нехта, мабыць, ужо за савецкім часам, вырашыў, што гэта немілагучна, ці абразьліва, ці то ідэалягічна нявытрымана, і ў суседзкай мове нас сталі зваць... нават не belarusai, а baltarusai, белыя рускія (цяпер назоў gudai вяртаецца).

Слоўны запас беларускае мовы даўна зазнаў заходні, лацінскі ўплыў. Расейская ж мова раней папаўнялася запазычаньнямі часьцей усходнімі, як правіла, грэкавізантыйскімі й цюркскімі. Адсюль частыя неадпаведнасьці паміж дзьвюма мовамі: бел. *акуляры* з лац., рас. *очки* — сваё. Бел. *кляштар* і *манастыр*, рас. — толькі *монастырь*. Бел. *цэгла* зь ням. — рас. *кирпич* зь цюрскіх моваў. Бел. *аловак* ад волава — рас. *карандаш* зь цюрскіх.

У беларускай мове слова *жыд* адносіцца да заходняй традыцыі, а расейскае слова *еврей* — ва ўсходнім, візантыйскім гучаньні. Гэта зусім натуральна і цалкам адлавядае вышэйпададзенай тэндэнцыі. І непаразуменьняў ад таго, хто каго як традыцыйна называе, паміж нашымі народамі ніколі не было.

Зьмітрок Бядуля (Шмуэл Плаўнік) напісаў кнігу «Жыды на Беларусі». Віленскі пісьменьнік Грыгоры Кановіч німала не бянтэжыцца з таго, што віленскія летувісы, беларусы, палякі называюць ягоны народ *židai, жыды, żydzi*. У беларускай літаратуры да канца 20-х гадоў ужывалася выключна слова *жыд* — ад клясыка XVIII ст. Каятана Марашэўскага да клясыка нашага стагодзьдзя Максіма Гарэцкага. Некалі вядомы, а потым схаваны ў спраты Купалаў верш «Жыды» сканчаецца словамі: *«О слава вам, усебеларускія жыды!»*

Усе найбольш аўтарытэтныя беларускія слоўнікі падавалі слова *жыд* як асноўнае ў беларускай мове (напрыклад, В.Ластоўскі. Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік, Коўна, 1924; І.Насовіч,«Словарь белорусского наречия», Ст.-Петербург, 1870; Я.Станкевіч, Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік, Нью-Ёрк, 1990). Ужываўся без праблемаў тэрмін *жыды* ў навуковай і мэтадычнай літаратуры.

З пачаткам камуністычнага задушэньня ўсіх нацыянальных культураў на Беларусі, у тым ліку й жыдоўскае, з абыходу было выведзенае й само беларускае слова «жыд». Болш таго, нават слова «яўрэй» людзі пачалі вымаўляць з агідкай, яно стала нейкім паўзабароненым. Але, на шчасьце, палітыка блаславёнага камуністычнаю дзяржавай антысэмітызму не дала плёну на Беларусі і, думаю, не магла даць. Магутныя традыцыі талеранцыі, паважлівага стаўленьня да любой мовы, культуры, веры не дапусьцілі ўзьнікненьня на Беларусі колькі-небудзь прыкметных рухаў кшталту «Памяці». Плённы шматвяковы дыялёг дзьвюх культураў працягваецца, зварачаецца да ўласных каранёў. І зусім натуральна, што, як жыдоўскі народ вяртаецца да спрадвечнае сваё мовы — гэбрайскае, іўрыту, гэтак і беларусы вяртаюцца да сваее моўнае самабытнасьці, да агульнаэўрапейскае традыцыі.

**Б.**



# Ні хлеба, ні культуры



К.П.Донэл

# РЭЦЭПТ ЗАБОЙСТВА

Абсаджаная кветкамі віла выглядала зусім ня так, як ён уяўляў. Тое самае можна было сказаць і пра яе гаспадыню. Мадам Шалён, якой было сорак гадоў, цяжка было залічыць да якой-колечы катэгорыі забойцаў: яе нельга было назваць ані Клеапатрай, ані старой чапялаю. «Мінэрва, а не жанчына», — тут жа падумалася яму. Яе вялікія вільготныя вочы былі, можа, крышачку сьвятлейшыя за сінечу Міжземнага мора, што зіхацела за высокімі вокнамі гасьцёўні, дзе яны сядзелі.

— «Д'юбонэ»*, інспэктар Мірон? — прапанавала яна, калі той пачаў размову. Цьмяны агеньчык зьдзіўленьня прамільгнуў у яе вачох, калі яна заўважыла, што інспэктар завагаўся, але добрыя манэры не дазволілі выказаць гэтага ўголас.

— Дзякую, — вымавіў ён з напругай, незадаволены зь сябе.

Мадам Шалён нібы незнарок першая прыгубіла з кілішка, быццам гаворачы: «Бачыце, месьё Мірон, вам нічога не пагражае». Гэта было зроблена па-майстэрску. Ці не занадта па-майстэрску?

— Вы завіталі, каб высьветліць, як я атруціла сваіх мужоў, — зь лёгкай усьмешкай канстатавала яна.

— Мадам! — зноў разгублена завагаўся ён. — Мадам, я...

— Вы, напэўна, ужо наведалі прэфэктуру. Увесь Вільфранш верыць гэтаму, — спакойна сказала яна.

Ён наладзіў свой голас на спакойны афіцыйны тон:

— Мадам, я прыйшоў, каб папрасіць дазвол на эксгумацыю цела месьё Шарля Вэсэра, які памёр у траўні 1939 года, і месьё Эт'ена Шалёна, які памёр у траўні 1946 года, дзеля афіцыйнага аналізу пэўных органаў. Вы ўжо адмовіліся даць дазвол сяржанту Люшэру з мяйсцовага пастарунку. Чаму?

— Люшэр — нявецлівы, брыдкі тып. Яму, у вадрозьненьне ад вас, не стае ўменьня абыходзіцца зь людзьмі. Я ня маю нічога супраць закону, я проста не магу прыняць такога стаўленьня да мяне. — Яна паднесла кілішак да сваіх пульхных вуснаў. — Вам я не адмоўлю, інспэктар Мірон. — У яе вачох было амаль захапленьне.

— Вы перабольшваеце.

— Бо, — казала яна далей ласкавым голасам, — ведаючы мэтады парыжскай паліцыі, я цалкам упэўненая, што эксгумацыю ўжо зрабілі патаемна, — яна счакала, пакуль ён пачырванее, удаючы, што не заўважае зьменаў у ягоным твары, — і што аналізы, — працягвала яна, нібы паўзы і не было, — ужо закончаныя. Вы трапілі ў глухі кут, бо вы нічога не знайшлі. І таму вы — новы чалавек у гэтай справе — хочаце ацаніць мяне, мой характар і маю здольнасьць да самакантролю... ды, між іншым, магчымасьць зацягнуць мяне ў размову, якая пацьвердзіла б маю віну.

Дроцікі былі кінутыя гэтак трапна, што было б найвялікшым глупствам адмаўляць наяўнасьць ранаў. «Лепей шчыра прызнацца ўва ўсім», — адразу вырашыў Мірон:

— Зусім правільна, мадам Шалён. Правільна да драбніцаў. Але... — ён пільна паглядзеў на яе, калі нехта страціць аднаго за адным двух сваіх мужоў, ня надта старых, ад моцнага разладу страваваньня, на працягу двух гадоў пасьля вясельля і калі ўся — досыць-такі немалая маёмасьць пераходзіць да ўдавы... разумееце?..

— Вядома, — мадам Шалён падышла да вакна. Яе пышныя грудзі выразна акрэсьліліся на фоне блакітнае вады. — Вы хочаце, каб я ўва ўсім прызналася, інспэктар Мірон?

Так, яна была сапраўдная жанчына, жанчына, здольная да правакацыяў. Яе пяшчотны голас нібы папярэджваў Мірона, што трэба быць напагатове.

— Калі мадам будзе такая ласкавая, — адказаў ён як мага больш няўважна. Небясьпечная жанчына. Страшэнна небясьпечная.

— Добра, зраблю вам ласку. — Мадам Шалён не ўсьміхалася. Подых зьменлівага ветру прынёс інспэктару яе пах. Ці гэта быў пах садовае кветкі? Насьцярожанасьць не давала яму ўзяцца за нататнік. Неверагодна! Няўжо яна так проста пачне гаварыць? І ўсё ж...

— Вы ведаеце што-небудзь пра мастацтва прыгатаваньня страваў, месьё Мірон?

— Я з Парыжа, вы памятаеце?

— А пра мастацтва каханьня таксама?

— Я ж ужо сказаў, я з Парыжа.

— Тады... — яна ўдыхнула паветра на поўныя грудзі, — магу вам сказаць, што я, Гартэнзія Эжэні Вільруа Вэсэр Шалён, павольна і наўмысна, з поўным усьведамленьнем, забіла майго першага мужа, месьё Вэсэра, якому было 57 гадоў, а таксама і другога мужа, месьё Шалёна, ва ўзросьце 65 гадоў.

— Няма сумневу, дзеля нейкае прычыны? — Ці гэта быў сон, ці вар'яцтва?

— Выйсьці замуж за месьё Вэсэра мяне пераканалі ў сям'і. За два тыдні я даведалася, што месьё Вэсэр быў сьвіньня зь непатольным апэтытам. Грубы чалавек, брыдкаслоў, хвалько, ён ашукваў бедных, падманваў нявінных. Ненажэрны, неахайны чалавек зь непрыемнымі звычкамі, — карацей, яго ўпрыгожвалі ўсе тыя агідныя заганы, што прыходзяць са старасьцю, і зусім без уласьцівай ёй пяшчоты ці годнасьці. Нядзіўна, што ў яго быў слабы страўнік.

Інспэктар кіўнуў. Ён дэталёва вывучыў справу месьё Вэсэра яшчэ ў Парыжы, і ягонае ўражаньне збольшага супадала з партрэтам, які намалявала мадам Шалён.

— А месьё Шалён?

— Я была ўжо не такая маладая, калі выйшла за яго.

— Таксама са слабым страўнікам? — зь лёгкай іроніяй папытаўся інспэктар.

— Няма сумневу. І з даволі слабой воляю. Можа, не такі жорсткі, як Вэсэр, але, калі зірнуць глыбей, горшы за яго, бо ён тут хаўрусаваў зь немцамі. Чаму яны дбалі пра тое, каб мы мелі найлепшыя, найбольш рэдкія стравы і віны, тым часам, калі дзеці млелі на вуліцы? Можа я й забойца, інспэктар, але ж я і францужанка. Таму я без ваганьня вырашыла, што Шалён, як і Вэсэр, мусіць памерці.

— Як, мадам Шалён? — ціха, каб не парушыць ніць аповяду, спытаўся інспэктар.

Яна павярнулася. Твар яе асьвятліла ўсьмешка:

— Вы, напэўна, знаёмыя з такімі стравамі, як індык, надзяваны каштанамі, або катлеты дэ-валяй па-індзейску, або «сакрэт маладосьці», або амлет з неспадзеўкай па-нэапалітанску, або суп тлусты па-багратыёнаўску, баклажаны па-турэцку, смажаніна зь перапёлак, або...

— Досыць, мадам Шалён! Якое багацьце! Якое...

— Вы спыталі пра мае мэтады, інспэктар Мірон. Я выкарыстоўвала гэтыя стравы ды сотні іншых. І да кожнай зь іх я дадавала крышачку... — Тут яе голас раптам абарваўся.

— Крышачку чаго, мадам Шалён?

— Вы ж вывучалі маю справу. Таму ведаеце, хто быў мой бацька.

— Жан-Мары Вільруа, знакаміты шэф-кухар. Непераймальны вучань славутага Эскоф'е.

— Так. Калі мне было яшчэ дваццаць два, мой бацька перад самай сьмерцю прызнаў, што апрача нязначнай слабасьці ў тушэньні мяса, мяне можна ўважаць роўнай яму ў майстэрстве.

— Вельмі цікава. Кланяюся вам. — Міронавы нэрвы напяліся ад уменьня гэтай прыгожай жанчыны перасокваць на пабочныя тэмы. — Але ж вы сказалі, што дадавалі ў кожную з гэтых непараўнальных страваў крышачку...

Мадам Шалён павярнулася да яго сьпіною:

— Крышачку майго майстэрства і нічога болей. Толькі гэта, і больш нічога, інспэктар. Мастацтва Эскоф'е і Вільруа. Тры, чатыры разы на дзень я гатавала Вэсэру і Шалёну найбагацейшую, разнастайную ежу. Я прымушала іх наядацца да непрытомнасьці, спаць, потым зноў набіваць кундзюкі, выпіваць процьму віна, каб яны маглі зжэрці яшчэ больш. Як маглі яны, у іх узросьце, пражыць больш?

Пасьля гэтых словаў у пакоі запанавала такая цішыня, што было чуваць ціканьне далёкага гадзіньніка. Зьнячэўку інспэктар Мірон падхапіўся з крэсла. Гэты рух быў такі нечаканы, што яна спалохана ўздрыгнула і трохі пабляднела.

— Сёньня ўвечары вы пойдзеце са мною ў Ніс, мадам Шалён.

— У пастарунак, інспэктар Мірон?

— У казіно, мадам. Выпіць шампану ды паслухаць музыку. Там мы яшчэ крыху пагаворым.

— Але інспэктар Мірон...

— Паслухайце, мадам. Я нежанаты. Мне сорак чатыры гады. Гавораць, выглядаю яшчэ няблага. Сёе-тое ашчадзіў. Я, вядома, ня надта прывабная здабыча, аднак і не такая, да якой ставіліся з пагардай. — Ён зірнуў ёй у вочы. — Я жадаю памерці.

— Гэтыя стравы, калі іх спажываць памяркоўна, не абавязкова выклікаюць сьмерць. Вы пацалуеце мне руку, інспэктар Мірон?

**Пераклаў з ангельскай Віктар ЛУК'ЯНАЎ**

* *Французскі апэрытыў*

---

У 1902 годзе на хутары Лябёдка Лідзкага павету быў надрукаваны першы нумар газэты СВАБОДА

## НАШАЙ ГАЗЭЦЕ—90 ГОД

Падпісвайся на СВАБОДУ

**У межах Беларусі:**
у любым аддзяленьні «Белсаюздруку» ці аддзяленьні паштовае сувязі; наш падпісны індэкс у Беларускім рэспубліканскім каталёгу: 63887,
кошт на падпіску: на год —12 руб., на 6 мес.—6 руб., на 3 месяцы—3 рублі.

**У межах былога СССР:**
пачынаючы зь любога нумару (на жаданьне дасылаюцца й ранейшыя нумары); калі накіруеце адвольную суму грошай паштовым пераказам (зь якой пасьля будзе вылічвацца кошт кожнага дасланага Вам нумару ды палова выдаткаў на паштовую перасылку) на адрас:
Сп. Сабаленку Алесю, п/с 17, м. Менск, інд. 220045, Беларусь; пра вычарпаньне пераказанае сумы Вам будзе паведамлена разам з апошнім нумарам газэты.

**У Вольным Сьвеце:**
падпіску зьбірае Сп. Сяргей Карніловіч з Кліўленда, кошт на гадавую падпіску $20.00 (яна ахоплівае й НАШУ НІВУ); поўны падпісны адрас:
Attn: Mr. S.Karnilovich.
Byelorussian-American Community Center «Połacak»,
11022 Webster Road, STRONGSVILLE, OH. 44130,
U.S.A.

**Калі Вы жывеце ў Польшчы,**
падпіску можна аформіць, пералічыўшы грошы на конта 5526-80725-136 II PKO Białystok. Pismo Informacyjno-Kulturalne Wschodniej Białostocczyzny Czasopis (dla SVABODY) і паведаміўшы пра гэта на адрас:«CZASOPIS»,ul.Warszawska 11,15—062,Białystok. Кошт аднаго нумару — 1000 злотых.

Бібліятэкам і музэям у межах былога СССР газэта дасылаецца на замову задарма.

---

Рэдакцыя газэты
**БЕЛАРУСКІ КАЛЕКЦЫЯНЕР**
паведамляе, што падпісацца на газэту на 1992 год можна, калі пералічыць 4 руб. зь межаў Беларусі і 5 руб. зь межаў былога СССР на адрас: **211030 Ворша, вул.Флёрава д.7, кв.16, Сярожкіну Алесю Міхайлавічу.**

## Кантактныя адрасы беларускіх арганізацыяў

### У Польшчы

*Беларускае грамадзка-культурнае таварыства*
Białoruskie Towarzystwo Społeczno-kulturalne
ul.Warszawska 11, 15-062 Białystok, RP — Польшча

*Польскае беларусазнаўчае таварыства*
Polskie Towarzystwo Białorutenistyczne
ul.Sztuzmowo 3, pokój 520, 02-678 Warszawa, RP — Польшча

*Грамадзкі камітэт пабудовы Музэя помнікаў беларускай культуры.*
Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskie
ul.Wyzwolenia 6, 17-200 Hajnówka, RP — Польшча

*Беларускае дэмакратычнае аб'яднаньне*
Białoruskie zjednoczenie demokratyczne
ul.Warszawska 11, 15-062 Białystok, RP — Польшча

*Беларускае літаратурнае аб'яднаньне «Белавежа»*
Białoruskie Stowarzyszenie Literackie Białowieża»
ul.Warszawska 11, 15-062 Białystok, RP — Польшча

*Беларускае аб'яднаньне студэнтаў*
Białoruskie zrzeszenie studentów
ul.Warszawska 11, 15-062 Białystok, RP — Польшча

*Клюб Беларускай Інтэлігенцыі*
Klub białoruskiej Inteligencji
ul.Warszawska 11, 15-062 Białystok, RP — Польшча

*Польскае радыё, беларуская рэдакцыя.*
Polskie Radio, redakcja Białoruska
ul.Świerkowa 1, 15-328 Białystok, RP — Польшча

### У Летуве

*Каардынацыйная Рада беларускіх згуртаваньняў і арганізацыяў у Летуве*
232600 Летува, Вільня, вул.Раугіклос д.25, Беларускае прадстаўніцтва
тэл.26-03-17

*Таварыства Беларускай Культуры пры Летувіскім фондзе культуры*
232600 Летува, Вільня, вул.Раугіклос д.25

*Клюб аматараў беларускай культуры «Сябрына».*
232600, Летува, Вільня, вул.Раугіклос, д.25

*Рэгіянальная Рада БНФ «Адраджэньне» ў Летуве.*
232000 Летува, Вільня, п/с 95. Тэл.26-05-96

*Віленскі пэдагагічны інстытут, Беларускае адзьдзяленьне факультэта славістыкі, катэдра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры.*
232034 Летува, Вільня, вул.Студэнту 39, п.527
тэл.73-31-01, 35-58-01, сп.Тацяна Каротчанкава

*Згуртаваньне беларускіх настаўнікаў*
232000 Летува, Вільня, вул.Кауно д.17а, кв.6
тэл.63-03-88, сп.Лілея Плыгаўка

*Беларускія перадачы радыё незалежнай Летувы*
232041 Летува, Вільня, п/с 2082

ЛІЦЭНЗІЯ № 10. АФСЭТНЫ ДРУК. ДРУКАРНЯ МАУ. ЗАМОВА 13.